**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 49 (765) 4 снежня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**На возеры Вялікім – "аншлаг"!**
*Фота Ул. Скрабатуна.*

**МНС папярэджвае:** нельга ступаць на паверхню вадаёма, калі лёд рыхлы, ці дзесьці праступае вада. Таксама забараняецца збірацца на лёдзе вялікімі групамі. *Чытайце на стар. 6*



Падача абвестак па тэлефоне № 166

Сенненскі раён

# Пачалі вяртацца свінні

■ Станіслаў Раманчук.

**Найбольш моцна ў краіне ад успышкі афрыканскай чумы свіней пацярпела менавіта Віцебская вобласць, дзе іх пагалоўе зменшылася амаль напалову.**

Яшчэ летась адным з першых сутыкнуўся з бядой буйны свінакомплекс з больш чым 20 тысяч галоў саўгаса імя П. Машэрава Сенненскага раёна. Тады большую частку пагалоўя прыйшлося там знішчыць, комплекс закрыць, многіх работнікаў звольніць, альбо перавесці ў іншыя падраздзяленні сельгаспрадпрыемства, якое ўваходзіць цяпер у склад Віцебскага мясакамбіната. Сёлета, як і ў іншых месцах, у аграгарадку Машканы актыўна вяліся работы па забеспячэнні біялагічнай абароны памяшканняў комплексу. Удалося капітальна адрамантаваць і першыя чатыры цэхі для вырошчвання свіней, чаго даўно тут не рабілі. Устанавілі дадатковыя лініі агароджання, неабходныя дэзбар'еры, душавыя кабінкі для працаўнікоў. Рамонтныя работы на іншых будынках поўнага цыклу свінагадоўлі прадаўжацца і далей, а пакуль тут паспяхова правялі біяпробы пятачкоў. На мясцовы свінакомплекс прыбыла першая партыя са 190 свінаматак. На працягу 45 сутак яны будуць знаходзіцца на каранціне. Калі новыя аналізы не выявяць парушэнняў санітарных умоў, то на гэту фабрыку свініны пачнуць завозіць новых маладых свінак. Аднак працэс аднаўлення страчанага пагалоўя не такі і просты, як здаецца. Спатрэбіцца не менш двух гадоў напружанай працы, каб наблізіцца да ранейшага ўзроўню прадукцыйнасці. У Прыдзвінні таксама за такі прамежак часу стаіць задача аднавіць пагалоўе з 400 тысяч свіней.

Пастаўскі раён

# Дзе тонка, там і рвецца

■ Кастусь Александровіч

**Яшчэ не пачаліся сапраўдныя халады, а супрацоўнікі МНС занепакоены тым, што насельніцтва і суб'екты гаспадарання не захоўваюць элементарныя меры супрацьпажарнай бяспекі.**

За некалькі тыдняў толькі на трох айчынных ільнозаводах былі зафіксаваны сур'ёзныя пажары са значным матэрыяльным уронам. Апошняе такое здарэнне адбылося ў разгар працоўнага дня на абноўленым Пастаўскім ільнозаводзе. Там работнікі падраднай будаўнічай арганізацыі з Наваполацка праводзілі з парушэннем дзеючых правіл агнявыя работы без падпісанага кіраўніцтвам завода допуску. Горш таго, адзін з рабочых будаўнікоў знаходзіўся ў нецвярозым стане, але майстар не адхіліў яго ад працы. У выніку падчас зразання ўязных варот ад іскры палыхнуў склад з гатовай прадукцыяй кароткага льновалакна. На тушэнне пажару прыйшлося задзейнічаць пажарныя машыны са свайго і з суседняга Мядзельскага раёна. За дзве гадзіны пажарныя спачатку агонь лакалізавалі, а потым поўнасцю патушылі. Праўда, матэрыяльны ўрон аказаўся даволі значны: 10 тон валакна згарэла, яшчэ 20 тон аказалася пашкоджанымі, як і дах і вокны з дзвярыма складскога памяшкання. На самім жа прадпрыемстве незадаволены паступіўшай новай бельгійскай лініяй, якая больш прастойвае, чым працуе. Для загрузкі сучаснага абсталявання патрэбна было назапасіць 10 тысяч тон ільнотрасты, аднак з палёў даставілі сёлета сыравіны ў 3 разы меней.

Докшыцкі раён

# Майстры на ўсе рукі

■ Чэслаў Якубовіч.

**Толькі кароткі перыяд росквіту перажывала будаўнічая галіна ў Беларусі, але так і не стала адным з важнейшых фактараў росту айчыннай эканомікі.**

З цягам часу сродкаў на ўзвядзенне жылля і іншых аб'ектаў стала не хапаць, надоўга зацягваліся тэрміны іх здачы ў эксплуатацыю. У выніку многія будаўнічыя арганізацыі самі апынуліся ў няпростым фінансавым становішчы, не маюць сродкаў на закуп матэрыялаў для працы. На шчасце, падобных праблем удалося пазбегнуць калектыву Докшыцкай ПМК-52, адной з лепшых у трэсце "Полацксельбуд", адзначыўшым нядаўна свой 70-гадовы юбілей. Прыгожыя вуліцы, новыя будынкі райцэнтра і цэлы жылы мікраён на ўездзе ў горад сталі візітоўкай самага буйнога працоўнага калектыву Бярэзінскага краю. Каб упэўнена сябе адчуваць на будаўнічым рынку, мясцовая ПМК мае сваю падсобную вытворчасць, у якой занята сорак спецыялістаў высокай кваліфікацыі. Яны паспяхова асвоілі цяпер мантаж металаканструкцый, навучыліся рабіць нават энергазберагальныя пакеты і балконныя дзверы і вокны з пластыку. Акрамя таго бударганізацыя сама вырабляе тратуарную плітку, агароджы, бардзюрны камень, жалезабетонныя пліты і кольцы. Сёлета за першыя тры кварталы года ўдалося зарабіць амаль 5 млрд. рублёў пасля выканання заказаў іншых бударганізацый. Адна з брыгад асвоіла і выраб водасцёкавых труб, аконных адліваў і канькоў для дахаў. Пачыналі ж у калектыве з вырабу з драўляных вокан і дзвярэй, вагонкі і плінтусаў, а зараз маюць ужо некалькі спецыялізаваных цэхаў, без якіх нельга было за кароткі тэрмін правесці і абнаўленне інфраструктуры гарпасёлка Бягомль, за што ПМК-52 адзначылі на нацыянальным прафесійным конкурсе.

# Аб самым надзённым

## Напрыканцы года зноў пачаў разгарацца чарговы беларуска-расійскі канфлікт у форме "прадуктовай вайны"




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Шырока гэта не афішуецца, але цяпер у Расіі на трэць не хапае мяса і малочных прадуктаў да патрэбнасці і на 50 % - недахоп рыбы і прадуктаў з яе. Больш таго, Расійскі малочны саюз б'е трывогу, што з новага года пытанне недахопу малакапрадуктаў стане вельмі сур'ёзным, бо пастаўкі з Лацінскай Амерыкі не закрываюць неабходныя аб'ёмы, каб накарміць усіх на расійскіх прасторах.**

На фоне крывавых падзей на ўсходзе Украіны і разрастання канфлікту паміж Захадам і Расіяй, здавалася б, становішча ў нашай Беларусі самае спрыяльнае зараз. Ва ўрадзе нават загаварылі аб магчымасці зніжэння цаны паставак расійскага газу ў 2015 годзе. Самыя прадпрымальныя суайчыннікі з прыгранічных рэгіёнаў сталі нават часцей ездзіць да рускіх закупляць там больш танны бензін і іншыя тавары (машыны, бытавую тэхніку, электроніку), бо гэта стала выгадна, калі імкліва здае свае пазіцыі расійская валюта. Дасведчаныя людзі, у прыватнасці той жа эксміністр А. Кудрын папярэджвае, што ў бліжэйшыя два і нават тры гады сітуацыя ў расійскай эканоміцы будзе складаная, бо Пуцін і не думае змяняць сваю палітыку "месіі", абароны інтарэсаў "рускай нацыі" ў свеце.

Аднак і ў нас у канцы года хапае праблем і цяжкасцей. Для большасці беларусаў самае кепскае, што і сёлета спажывецкія цэны растуць на больш высокім узроўні, чым абяцалі афіцыйныя прагнозы па інфляцыі ў памеры 11 %. Гэты паказчык у канцы снежня можа скласці нават 18-20 %, а беларускі рубель кожны месяц "слабее" ў адносінах да амерыканскага долара на 1-1,5 %. Новы галоўны кантралёр Беларусі Леанід Анфімаў днямі таксама заявіў, што даручэнне кіраўніка дзяржавы па аднаўленні і павелічэнні пагалоўя свіней знаходзіцца пад пагрозай зрыву, як і ранейшая каманда не дапускаць у краіне з'яўлення праблемных дамоў-доўгабудаў.

У праслаўтым Мытным саюзе і будучым Еўразійскім эканамічным таксама ўзніклі чарговыя непаразуменні і новы канфлікт. Спачатку Расія ўзяла і забараніла ўвоз прадукцыі нашых лепшых 9 мясакамбінатаў, сярод якіх буйнейшыя агракамбінаты Белавежскі і Дзяржынскі, Бярозаўскі мясакансервавы камбінат", "Інка-Фуд", Смалявіцкая бройлерная птушкафабрыка і іншыя, дзе быццам знайшлі "дрэннае" па якасці мяса. Увогуле суседняя руская дзяржава – дзіўная нейкая, дакладна розумам яе не зразумець. У пачатку жніўня суседзі самі ўвялі для сябе прадуктовыя санкцыі і дабіліся толькі рэзкага росту цэн.

Шырока гэта не афішуецца, але цяпер у Расіі на трэць не хапае мяса і малочных прадуктаў да патрэбнасці і на 50 % - недахоп рыбы і прадуктаў з яе. Больш таго, Расійскі малочны саюз б'е трывогу, што з новага года пытанне недахопу малакапрадуктаў стане вельмі сур'ёзным, бо пастаўкі з Лацінскай Амерыкі не закрываюць неабходныя аб'ёмы, каб накарміць усіх на расійскіх прасторах. Аднак не хочуць таварышы "маскалі" сядзець спакойна, у іх, напэўна, у крыві ўвесь час даваць адпор сваім нядобразычліўцам. У такі рад "ворагаў" яны паставілі і нашу сінявокую Беларусь.

З панядзелка 24 лістапада Расспажыўсельгаснагляд увёў на граніцы РФ дагляд усіх дальнабойных грузавікоў з Беларусі, нават транзітных фур, маршруты якіх ішлі ў яшчэ адну краіну мытнай тройкі – Казахстан. Не давярае такім чынам "старэйшы брат" свайму саюзніку і абураны, што польскія тыя ж яблыкі пад відам беларускіх трапляюць на паліцы расійскіх крам. Калі пісаліся гэтыя радкі, беларускае кіраўніцтва стала думаць аб мерах у адказ. Самае галоўнае, што праслаўтая ідэя славянскага адзінства, братэрскай інтэграцыі народаў зноў рухнула, даказала сваю нежыццяздольнасць. У тым жа Еўрасаюзе не дзейнічаюць такія абмежаванні і забароны на перамяшчэнне тавараў, капіталаў і людзей. А вось афіцыйны Крэмль са сваім саюзнікам не лічыцца, яшчэ раз даказаў, што будзе рабіць тое, што захоча.

Акрамя таго планы нашых улад болей падзарабіць за кошт дадатковых паставак ежы ў Расію не спраўдзіліся яшчэ і з-за абвалу кошту расійскага рубля. Перад гэтым Масква абвінавачвала ў рээкспарце забароненых тавараў з ЕС шматпакутную Украіну, супраць Малдовы, Грузіі вядзе зацяжныя гандлёвыя і не толькі войны. У адносінах той жа Літвы прагучалі прапановы аб разрыве дыпламатычных зносін пасля таго, як літоўскі лідар Д. Грыбаўскайтэ смела і шчыра назвала Расію "тэрарыстычнай" дзяржавай", якая ў Данбасе не спыніцца і далей будзе ствараць ачагі напружанасці, каб яны тлелі ў Прыбалтыцы, меліся рычагі для шантажу Пуціным Польшчы і іншых краін кантынента.

Бяда многіх беларусаў, што яны сімпатызуюць рускім палітыкам і ў захапленні, што тыя зрабілі з Крымам і твораць сумесна з сепаратыстамі ў Данбасе. Мяне ж асабіста парадавала, што заходнія спецыялісты запусцілі супраць агалцелай расійскай тэлевізійнай дзяжпрапаганды найноўшы і магутны вірус-шпіён. Разумныя і свабодныя людзі назіраць за бясконцым замбіраваннем, штодзённую хлусню і праслаўленне пуцінскай алігархічнай партыі жулікаў і злодзеяў даўно ўжо перасталі. Замест сваіх рэваншысцкіх амбіцый заняліся яны б лепш стварэннем дастойнага жыцця ў расійскай глыбінцы, сваёй прамысловасцю, накармілі б самі рускі народ. Лепш зажывуць і беларусы, калі палепшыцца геапалітычная сітуацыя ў нашых суседзяў і асноўных гандлёвых партнёраў Беларусі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 04.12.14 | | | | Пятніца 05.12.14 | | | | Субота 06.12.14 | | | | Нядзеля 07.12.14 | | | | Пн.08.12. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -7 | -6 | -6 | -6 | -6 | -6 | -6 | -5 | -6 | -6 | -5 | -4 | -4 | -4 | -4 | -3 | -4 | -4 | -4 |
| Ціск | 756 | 755 | 756 | 756 | 757 | 758 | 757 | 756 | 755 | 753 | 751 | 750 | 749 | 749 | 748 | 747 | 747 | 745 | 745 |
| Вільготнасць | 94 | 98 | 98 | 97 | 94 | 97 | 99 | 99 | 96 | 88 | 92 | 94 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 | 100 |
| Вецер м/сек | 4 Пд-З | 5 З | 4 З | 3 Пн-З | 2 З | 2 Пд-У | 4 Пд | 4 Пд | 5 Пд | 5 Пд-У | 5 Пд | 5 Пд | 3 Пд | 2 Пд-З | 2 Пд-З | 2 Пд-З | 1 Пд-З | 2 Пд-З | 2 Пд-З |

## Дзень за днём

**З-за абвалу расійскага рубля сталі расці складскія запасы ў Беларусі, рост айчыннага ВУП спыніўся 3 месяцы назад. Сусветны банк звярнуў увагу ўрада РБ на завышаны курс нацвалюты, што можа прывесці да паўтарэння крызісу 2011 года. Услед за выпіскай рэцэптаў па новых правілах для беларусаў увядуць электронныя медыцынскія карткі і электронныя рэцэпты. Таксама прапанавалі абмежаваць выраб і распаўсюджанне электронных цыгарэт. А. Лукашэнка запатрабаваў зрабіць яшчэ больш жорсткім фінансаванне спорту пры адсутнасці вынікаў. Беларусы з прыгранічча сталі ездзіць у Расію купляць больш танны бензін.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Генеральная асамблея ААН даручыла Міжнароднаму крымінальнаму суду ў Гааге пачаць працэс супраць кіраўніцтва КНДР за злачынствы супраць чалавечнасці.

**Аўстралія.** Галоўным вынікам саміта "20" у Брысбене стала далейшае паглыбленне ізаляцыі Расіі і ў першую чаргу яе лідара Пуціна, яго 8 гадзін перамоў асуджалі за Данбас.

**Англія.** Дырэктар па даследваннях кампаніі IHS Тан Густафсан заявіў, што новы расійскі газаправод "Сіла Сібіры" на поўную магутнасць выйдзе не раней сярэдзіны 2030-х гадоў.

**Расія.** Глава МЗС РФ С. Лаўроў заявіў у Мінску, што Расія не збіраецца прасіць заходнія краіны адмяніць уведзеныя санкцыі, бо канфрантацыя нібыта не выбар рускіх.

**Ізраіль.** Зноў рэзка абвастрылася абстаноўка ў рэгіёне пасля нападзення ісламскіх баевікоў раніцай на сінагогу ў Іерусаліме, дзе мярзотнікі забілі 5 і яшчэ 9 чалавек паранілі.

**Чэхія.** Тысячы абураных чэхаў закідалі сырымі яйкамі прэзідэнта Мілаша Земена, паказалі яму чырвоныя карткі за прарасійскую арыентацыю і парушэнні правоў чалавека.

**Галандыя.** ЕС прыняў экстраныя меры супраць распаўсюджання птушынага грыпу, на адной з заражаных птушкаферм знішчылі 150 тысяч курэй, ён небяспечны для людзей.

**Расія.** На ціск Захаду, як заявіў палітолаг С. Бялкоўскі, абсалютны ізгой Пуцін адрэагуе жорстка, што нічога добрага абяцае як Украіне, так і Расіі, яе нармальным грамадзянам.

**Украіна.** У Данбас прыбылі байцы атрада "Вымпел" спецназа ГРУ Расіі для ліквідацыі адыёзных баевікоў, якія не падпарадкоўваюцца загадам з Крамля, вольна дзейнічаюць.

**Грузія.** Прэм'ер-міністр Іраклій Габашвілі пацвердзіў, што краіна прадоўжыць курс па ўступленні ў НАТА, грузіны захаваюць празаходні выбар і дэмакратычныя рэформы.

**Казахстан.** Суд Караганды змясціў пад хатні арышт былога прэм'ер-міністра Серыка Ахметава, сёлета восенню ён падаў у адстаўку з пасады міністра абароны краіны.

**Японія.** У прэфектуры Яманасі падчас выпрабаванняў поезд эксперыментальнай хуткаснай чыгункі "Сінкансен" на магнітнай падушцы разагнаўся больш 500 км у гадзіну.

**Расія.** Пасля сур'ёзнай аварыі на рудніку Салікамска "Уралкалій" перастаў быць сусветным лідарам па вытворчасці калійных угнаенняў, ім стаў канадскі Potach Corp.

**ЗША.** Вядомы крыміналіст Вінсент дзі Маё абверг версію самагубства галандскага мастака Ван Гога пасля дэталёвага вывучэння характару агнястрэльнага ранення.

**Расія.** Як у сталінскія часы суд Іжэўска прызнаў анекдот часоў перабудовы экстрэмісцкім і забараніў яго, раней за "контррэвалюцыйны" пераказ сталі садзіць у лагеры з 1935 года.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Дзяржынск.** На тэрыторыі раёна з удзелам А. Лукашэнкі ва ўрачыстай абстаноўцы адкрылі новы завод па вытворчасці электрычак швейцарскай фірмы "Штадлер".

**Мінск.** Крэмль уцягвае Беларусь, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, у халодную вайну з Захадам і стаў прымушаць яе кіраўніцтва публічна дэманстраваць лаяльнасць Маскве.

**Жлобін.** У тэставым рэжыме пачаўся рух па 4-х палосах на абноўленай аўтатрасе на Гомель працягласцю каля 100 км, поўнасцю аб'ект будзе адкрыты на навагоднія святы.

**Барысаў.** У беларуска-кітайскай кампаніі "БелДжы" запланавалі павялічыць колькасць мадэляў выпускаемых аўтамабіляў і прадаць да канца года ў РБ больш 2 тысяч легкавушак

**Брэст.** Міліцыя затрымала 14-гадовага школьніка-хулігана, які вечарам стрэліў 4 разы з пнеўматычнага пісталета па аднагодках, аднаму з іх параніў палец рукі.

**Ваўкавыск.** Ад перадазіроўкі наркотыкаў, спайсаў "хуткасць" памёр 21-гадовы хлопец з райцэнтра, яго дзяўчына са Шчучына з сябрам трапілі ў рэанімацыю, будуць калекамі.

**Слуцк.** У райцэнтры 19-гадовы юнак тапаром і лапатай забіў 69-гадовую бабулю сваёй каханай дзяўчыны, потым грошы ўкраў у старой, каб купіць за іх спайс з алкаголем.

**Мінск.** Яшчэ адну партыю з 20 тон беларускай ялавічыны фірмы "Навабрас" не пусцілі расійскія ветэрынары ў Смаленскай вобласці, мяса везлі спажыўцам пад Масквой.

**Брэст.** Так і не дажыла да свайго 60-годдзя і закрылася мясцовая мэблевая фабрыка, яе прадукцыя не карысталася попытам, даўгі дасягнулі 20 млрд. рублёў.

**Мінск.** На сустрэчы з чытачамі ва ўкраінскім пасольстве пісьменніца С. Алексіевіч заявіла, што закрытасць беларускага грамадства можа прывесці краіну ў балота гісторыі.

**Гродна.** У дзень пакупкі 22-гадовым гродзенцам дарагой іншамаркі "Крайслер" прама на дарозе машына загарэлася, агонь спаліў салон і маторны адсек, калі патушылі пажар.

**Рэчыца.** Міліцыя арыштавала 25-гадовую прастытутку, якая ведаючы, што яна ВІЧ-інфіцыраваная, свядома працягвала ўцехі ў ложку і заразіла СНІДам чатырох мужчын.

**Мінск.** Пасля падзення аб'ёмаў прадаж сваёй прадукцыі айчынны вытворца жаночай бялізны "Мілавіца" пазбавіўся асноўнага партнёра ў Маскве, можа згубіць рынак РФ.

**Бабруйск.** Вечарам у вёсцы Міхалёва-1 згарэла па невядомых прычынах ферма з 320 тонамі сена і саломы, яе фермер выкарыстоўваў як склад, агонь пашкодзіў і 85 тон ячменю.

**Мінск.** Адзін з самых багатых людзей краіны, мільярдэр Ю. Чыж падараваў па кватэры ў Троіцкім прадмесці алімпійскім чэмпіёнам па фрыстайлу А. Цупер і А. Кушніру.

## Урад унёс змены і дапаўненні ў правілы аўтамабільных перавозак пасажыраў




■ Марына Носава, БелаПАН

**Пастановай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 22 лістапада 2014 года № 1087 унесеныя дапаўненні і змены ў правілы аўтамабільных перавозак пасажыраў, зацверджаныя пастановай Савета міністраў ад 30 чэрвеня 2008 года № 972.**

Як адзначаюць у Нацыянальным цэнтры прававой інфармацыі, пастановай прадугледжана абавязковае павышэнне кваліфікацыі вадзіцелямі транспартных сродкаў, якія выконваюць аўтамабільныя перавозкі пасажыраў, не радзей за адзін раз на 5 гадоў па адзіных праграмах павышэння кваліфікацыі вадзіцеляў механічных транспартных сродкаў адпаведнай катэгорыі. Гэтая норма набывае моц 27 мая 2015 года.

Акрамя таго, вызначана, што аўтамабільны перавозчык, які выконвае перавозкі груп дзяцей аўтобусамі ў нерэгулярных зносінах, абавязаны па запатрабаванні заказчыка прадстаўляць дакументы з пацвярджэннем выканання патрабаванняў заканадаўства да аўтамабільных перавозак груп дзяцей. Пастановай устаноўлены час ажыццяўлення аўтамабільных перавозак груп дзяцей аўтобусамі — з 5.00 да 23.00. Прадугледжана, што з 23.00 да 5.00 гадзін дапускаецца аўтамабільная перавозка груп дзяцей аўтобусамі да чыгуначных вакзалаў і аэрапортаў і ад іх, а таксама да найбліжэйшага месца начлегу пры затрымках у дарозе. Ва ўмовах недастатковай бачнасці (туман, дождж, снегапад і да т.п.) аўтамабільная перавозка груп дзяцей аўтобусамі не рэкамендуецца.

Правілы аўтамабільных перавозак пасажыраў дапоўненыя раздзелам, які рэгламентуе аўтамабільныя перавозкі дзяцей, што вучацца ва ўстановах дашкольнай, агульнай сярэдняй і спецыяльнай адукацыі, школьнымі аўтобусамі ад месца жыхарства (месцазнаходжання) да месца вучобы і назад. Так, пастановай вызначана, што перавозкі дзяцей школьнымі аўтобусамі арганізуюцца мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі.

Да перавозкі дзяцей школьнымі аўтобусамі дапускаюцца вадзіцелі, якія маюць вадзіцельскае пасведчанне на права кіравання механічнымі транспартнымі сродкамі катэгорыі D, вадзіцельскі стаж кіравання механічным транспартным сродкам катэгорый B, C або D не менш чым 3 гады, не прыцягваліся на працягу апошняга года да адміністрацыйнай адказнасці і прайшлі адпаведныя стажыроўкі.

Установы адукацыі або аўтаперавозчыкі, якія выконваюць перавозкі дзяцей школьнымі аўтобусамі, абавязаныя своечасова, не пазней за 10 дзён да пачатку ажыццяўлення перавозак у навучальным годзе, прадстаўляць у Дзяржаўную аўтамабільную інспекцыю па месцы знаходжання ўстановы адукацыі або аўтамабільнага перавозчыка афіцыйнае паведамленне аб плануемых перавозках дзяцей. Установа адукацыі, да якой ажыццяўляецца перавозка дзяцей школьнымі аўтобусамі, на кожны школьны аўтобус прызначае паўналетняга суправаджальніка, а калі колькасць дзяцей больш за 20 — двух паўналетніх суправаджальнікаў. Перавозка дзяцей школьнымі аўтобусамі дапускаецца з 6.00 да 21.00 гадзіны.

Пастанова набывае моц 27 лютага 2015 года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Да 2016 года вобласць, як запэўніў першы намеснік старшыні аблсельгасхарча У. Машэра, ліквідуе наступствы АЧС, пагалоўе свіней давядуць да 400 тысяч галоў.

**Лёзна.** На выязным прыёме грамадзян глава МУС Беларусі І. Шуневіч заявіў, што не трэба абзываць людзей "тунеядцамі", але розныя меры ўздзеяння на лайдакоў патрэбныя.

**Паставы.** Днём загарэўся склад з гатовай прадукцыяй ільнозавода, там праводзіліся зварачныя работы, людзі не пацярпелі, агонь знішчыў 10 тон валакна і 20 тон пашкодзіў.

**Наваполацк.** Прадпрымальных гараджан устрывожылі намеры кіраўніцтва горада пазбавіцца ад большасці з 64 гандлёвых павільёнаў і кіёскаў, рашэнне будзе ў 2015 годзе.

**Верхнядзвінск.** Стан работы з насельніцтвам у раёне праверыла міжведамасная рабочая група на чале са старшынёй Камітэта дзяржкантролю Беларусі Л. Анфімавым.

**Сянно.** Супраць галоўнага бухгалтара з памочніцай распачалі крымінальную справу, ім пагражае ад 3 да 10 турмы за падман сваёй гаспадаркі больш чым на 1,6 млрд. рублёў.

**Браслаў.** Узвядзенне новага 60-кватэрнага жылога дома ў райцэнтры апынулася пад пагрозай зрыву: заключылі толькі 35 дагавораў з дольшчыкамі, праблемы і па вобласці.

**Віцебск.** На трох мясцовых журналістаў міліцыя завяла адміністрацыйныя справы за фатаграфаванне на фоне графіці і нібыта за "ўдзел у несанкцыянаванай акцыі".

**Талачын.** Адразу чатыры металічныя паклонныя хрысціянскія крыжы ўстанавілі і асвяцілі ў райцэнтры, каб яго жыхары жылі па законах дабра і міласэрнасці да блізкіх, усіх людзей.

**Віцебск.** Вечарам малады вадзіцель, рухаючыся заднім ходам у цемры, збіў на дарозе 84-гадовую пенсіянерку без флікераў, яна раптам туды выйшла, потым памерла ў бальніцы.

**Шуміліна.** На плошчы ля чыгуначнага вакзала адкрылі помнік-бюст першаму міністру шляхоў зносін царскай Расіі Паўлу Мельнікаву, тут пайшлі першыя паязды ў 1866 годзе.

**Наваполацк.** Па просьбе мясцовай ДАІ святар царквы Архангела Міхаіла айцец Аляксандр асвяціў участкі дарог, дзе ў горадзе найчасцей гібнуць людзі ў ДТЗ.

**Докшыцы.** На навагоднія святы ў Бярэзінскім біясферным запаведніку чакаюць наплыва гасцей з 15 снежня, бо папулярны раней Зюзя Паазерскі закрыў сваю рэзідэнцыю.

**Шуміліна.** На воінскіх могілках у аграгарадку Мішневічы перазахавалі астанкі знойдзеных яшчэ 9 невядомых чырвонаармейцаў, загінуўшых у часы мінулай вайны.

**Глыбокае.** Бліскуча завяршыў чэмпіянат Віцебскай вобласці па футболе ў 1-й лізе мясцовы ФК "Азярцы", 5 перамог запар прынеслі глыбачанам сярэбраныя медалі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Буслы бабкі Марылі



■ Ала Мароз,
*г.п. Варапаева.*



**Марыля Гінтофт**



**Адразу відаць, хто за старэйшага!**

Вёска Кейзікі, што недалёка ад пасёлка Варапаева, пачынаецца з маста праз рэчку Заражанку. Калісьці мост з усіх бакоў абкружалі ніцыя вербы, таму гэтае месца было адным з самых прыгожых на нашай рацэ. Мы прыходзілі сюды, каб толькі ім палюбавацца. Дарога, што спускаецца да ракі хвалістай стужкай, пасля маста рэзка ўздымаецца ўгару да вёскі і, перакуліўшыся праз узгорак, зноў рашуча рушыць уніз, у кусцістую забалочаную лагчыну.

Атрымоўваецца так, што вузкая вясковая вуліца, ідучы па верхавіне працяглага ўзгорка, расходзіцца ад гэтай дарогі двума промнямі – на ўсход і на захад.

Хата бабкі Марылі – на паўднёвым канцы вуліцы, адна з апошніх. Насупраць хаты тоўстае тулава ўзгорка завужаецца, уступаючы ўтульнай прырэчнай лагчыне. Там і стаіць буслінь слуп. Два вакнывокі бабчынай хаты глядзяць як раз на тую лагчыну, і, як на экране, у іх бачыцца буслінае гняздо.

Вось ужо два гады я займаюся вывучэннем буслоў. Таму менавіта ля буслінага слупа мінулым летам мы з бабкай Марыляй і пазнаёміліся. Яна спусцілася са свайго ўзгорку, заўважыўшы ля сваіх любімцаў нехажалую персону.

*– Што, і ты любіш нашых буслоў? А мы ж нарадавацца не можам. Малых там тры. А ці ведаеш, што даўней па прыплоду ў буслінм гняздзе меркавалі пра будучы ўраджай?* – засыпала ўсмешлівая бабка Марыля пытаннямі, гэтымі і іншымі звесткамі аб народных прыкметах.

Убачыўшы фотакамеру, строга наказала:

*– Каб прывезла мне фатаграфію. І запішы маю фамілію. Я Марыля, Марыля Гінтофт. Запішы, а то забудзеш.*

Я абяцала не забыць і прозвішча, і хату.

***

Вывучаць буслоў бярэшся не проста па чыймусьці патрабаванні, а з вялікай душэўнай ахвотай. І, вандруючы па многіх вёсках краіны, не раз з замілаваннем назіраеш, што так шчыра адносяцца да іх людзі, верачы ў адвечны сакральный сэнс іх жыцця побач з чалавекам.

Як ўсе людзі, любіш і ты гэтых галянастых белых птушак. Усюды, дзе б ні быў, усцешана і натхнённа назіраеш ты за імі і за іх жыццём. Але калі гэта буслы тваёй радзімы…

Нябесна-блакітная радасць, а над ёй – неасэнсаваная празрыстая вуаль тугі. Замілаванне, а пад ім – стрыманыя глыбінныя слёзы, якія застаюцца захаваным скарбам тваёй існасці, распіраючым калодзеж сэрца.

***

Тым жа летам я другі раз наведалася ў Кейзікі з фотаздымкамі і намерам паглядзець, якія змены адбыліся ў жыцці буслоў бабкі Марылі. Яшчэ з маста заўважыла, што з буслінным гняздом нешта няладнае.

Бабка Марыля сустрэла мяне слязамі:

*– А ці бачыш ты, што адбылося? Тут было ўзняўся неяк моцны вецер - і звалілася гняздо. Малыя ўсе мёртвыя ляжалі. Пахавалі мы іх з пляменнікам.*

Падобнае мне прыходзілася бачыць і ў другіх месцах. Што ж, птушка ёсць птушка. Кожны год яна надбудоўвае і надбудоўвае сваё гняздо на тонкім слупе, носіць туды зямлю, каб мацаваць галлё, робіцца яно цяжкім і "шматпавярховым". У яго тоўшчы амаль заўсёды селяцца вераб'і. Канешне, нават і не вельмі шалёны вецер можа яго нарэшце скінуць. Шкада буслоў і вераб'ёў шкада.

*– А старыя буслы тады так лёталі, так лёталі ў небе,–* плакала бабка Марыля.

Я вельмі добра ўявіла сабе, як кружылі белыя птушкі над сваім разбураным гняздом. Кружылі моўчкі, не ўмеючы падаць ні крыку, ні стогну, і ад гэтага яшчэ шчымлівей сціскалася людское сэрца.

Адлучыўся чалавек ад птушынага жыцця. Не будуе слупы з платформамі, як раней, у даўнія часы. Ды і няма каму іх будаваць цяпер у паўзакінутых вёсках.

Гэтым летам, наведаўшыся ў знаёмую вёску, я была вельмі прыемна ўраджана. Бабка Марыля віталася са мной, як з добрай знаёмай, і ўсміхалася па-ранейшаму, паказваючы сваіх буслоў, якія адбудавалі-такі гняздо на тым жа самым месцы, ды ўжо не такое высачэзнае, і бусляняты ўжо ёсць, але яшчэ мала іх відаць. Самой бабцы ўжо 89 гадоў, але яна вельмі рухавая і бадзёрая. Яна ўсё завіхалася побач, старалася мне нешта падказаць, хвалявалася, што на гэты раз яе буслы мяне "падвялі" – не сталі пазіраваць. Затое я сфатаграфавала саму бабку, і атрымаўся цудоўны партрэт.

Тут, каля буслінага гнязда прыпынілася ля мяне яшчэ адна суседка буслоў Гваздзеўская Станіслава Юзэфаўна, сямідзесяцісямігадовая жанчына.

*– А ці ведаеш ты легенду пра гэтае месца?* – загадкава спыталася яна і прадоўжыла. *– У гады вайны былі забітыя ў гэтых мясцінах тры немцы. Пахавалі іх людзі, дзе знайшлі. Месца аднаго лесам парасло. Другому таксама невялікая раскоша – зрабілі з часам над ім звалку. Такое ім дваім выйшла пакаранне. А трэці з іх быў пахаваны менавіта тут, ля буслінага гнязда. Я малілася за таго немца ў касцёле. І стаў гэты немец мне з некаторага часу сніцца. Прасіў мяне ў сне, каб я абрацілася ў іх страну, каб прыслалі адтуль яму на свечкі і мне за тое, што малюся за яго. Пасля таго ўнучка мая пісала пісьмо ў Германію, і адтуль прыслалі грошы ў касцёл. І маліліся мы за немца.*

**… Я малілася за таго немца ў касцёле. І стаў гэты немец мне з некаторага часу сніцца.**

Цікава-таямнічая і вельмі неардынарная легенда-быль пра немца ўскалыхнула ў маёй душы шчырую хвалю гонару за духоўную сілу нашых землякоў-вяскоўцаў, здольных на тое, каб не толькі даравацъ, але нават і клапаціцца аб душы ворага.

А жанчына вярнулася зноў да тэмы буслоў, дзелячыся лірычным і трапяткім назіраннем:

*– Буслы, калі развітваюцца з гняздом, схіляюць галовы ўніз, быццам у глыбокім паклоне.*

А для мяне гэтым летам у Кейзіках самі буслы прыгатавалі яшчэ адну прыемнасць. На паўночным баку вуліцы маладая парачка абжыла гняздо, якое летась пуставала. Бусліха хадзіла недалёка па ўскрайку невялікага зарослага трысняговм балотца. Я доўга чакала, калі яна вернецца ў гняздо, і добра, што дачакалася. Вобраз шырока разгорнутых крылаў, якімі яна ахінула гняздо з птушанятамі, застаўся на фотаздымку як сімвал самаадданага мацярынства, пяшчоты, любові.

*– А адкуль вы ведаеце, што бусліха маладая?* – спыталася я ў маладой жанчыны, якая праходзіла міма і прыпынілася пагаварыць.

*– Я проста гэта бачу,* – адказала з усмешкай тая.

Паказала мне Іна Скрыцкая (так звалі жанчыну) і яшчэ адно, трэцяе па ліку, гняздо кейзікаўскіх буслоў, проста завяла да яго. Амаль насупраць яе дома стаяў высокі каржакаваты стары дуб. Ні летась, ні цяпер я не магла б сама заўважыць, што хавае яго густая лістота. Гняздо адпавядала дубу – вялізнае: шырокае і высокае. Буслы жылі ў ім многа гадоў. Даўно, па меркаванні жанчыны, можа, гадоў трыццаць таму, нехта прымацаваў на яго сухах раму, якую і ўпадабалі птушкі.

Яшчэ расказала Іна пра тое, як буслы носяць з балота мядзянак, а тыя, напэўна, з гнязда выпадаюць і поўзаюць тады па двары.

У канцы верасня, прыехаўшы ў Кейзікі, каб аддаць бабцы Марылі яе партрэт, наведала я яшчэ раз паўночную частку вуліцы, пазнаёмілася з Інінай суседкай Арустамавай Ганнай Сільвестраўнай – усё з нагоды буслінага існавання на старым дубе.

*– Мы прыехалі сюды ў 1993 годзе, і ўжо тады гняздо высокае было,* – расказвала жанчына, падцвердзіўшы меркаванне Іны аб яго "сталасці". *– Ой, мы ж Інай летам дасталі з бур'яна бусліка-падлетка. Відаць, зваліўся з гнязда, ударыўся і сядзеў там. Такая была ўдача ў руках яго патрымаць: ён жа такі мяккі, гладзенькі і лёгкі-лёгкі. Нават у рот зазірнулі – цікава было. Дзюба ў яго доўгая, а язык, аказваецца, зусім кароткі. Страшна яму было. Сядзіць, лапы пад сябе падціснуў. Думалі, не паляціць. Адхінуліся на хвілінку ад яго, а ён па дарозе пайшоў, пайшоў, раскрыў крылы і… паляцеў.*

Якіх толькі птушак тут не лётае. Журавы – не, журавоў няма. А чаплі восенню ходзяць ля балота. Ды і не толькі птушкі. Аднойчы бачу двое лісянятаў на масту гуляюць. Другі раз бачу: ліса сярод бела дня бяжыць па суседскім двары, курыцу цягне. Міма сабакі шмыганула, а той нават носам не павёў. Мусіць, прывык. А буслы… Не толькі ў нас буслы. А ў Харках вы не былі? Там таксама ёсць. А да Пашы Бука, нашага шафёра, што ў Ажунах жыве, лебедзі прыходзяць на двор, каб з гусямі паесці – гняздуюцца недалёка, на сажалцы.

***

Людзі і птушкі. Побач. У суседстве, у роднаснасці. Багацце зносін, адкрыццяў, пачуццяў. Суседская любоў, павага, дапамога. Паўната жыцця.

Шчаслівыя людзі, шчаслівыя птушкі, шчаслівая зямля.

А бабка Марыля падчас вераснёўскай нашай сустрэчы так шкадавала, што не прыехала я да буслоў тады, калі стаялі ўсе яе прыгажуны ў сваім гняздзе ў поўны рост – велічна і горда.

Я да вас абавязкова яшчэ вярнуся, дарагія вяскоўцы, да вас і да вашых птушак. Жыццёва неабходна мне гэта. Дзякуй вам за вашых буслоў.



# У Беларусі імёны знакамітых людзей у назвах вуліц будуць пісаць цалкам

У Беларусі назвы вуліц у гонар знакамітых людзей будуць пісацца цалкам, без ініцыялаў. Тапанімічная камісія пры Саўміне прыняла ўніфікаваны варыянт, паводле якога назвы ва ўсіх выпадках павінны складацца з імя і прозвішча або поўнага псеўданіма выдатнай асобы. Члены камісіі аднагалосна выказаліся за адмову ад выкарыстання ў назвах ініцыялаў. Пра гэта паведамілі ў Дзяржкаммаёмасці. Эксперты лічаць, што аднолькавы падыход адпавядае патрабаванням уніфікацыі тапанімічнай сістэмы ўнутры населеных пунктаў і служыць адукацыйна-выхаваўчым мэтам, дазваляючы ідэнтыфікаваць асобу, у гонар якой названая вуліца.

З практычнага пункту гледжання выкарыстанне ў назве імя, прычым на першым месцы, важна для правільнага напісання прозвішча на рускай і беларускай мовах.

Старшыня Дзяржкаммаёмасці, які ўзначальвае тапанімічную камісіі пры Саўміне, Георгій Кузняцоў адзначыў, што вопыт Беларусі па навядзенні парадку з назвамі населеных пунктаў і вуліц, плошчаў і г.д. лічыцца перадавым у СНД. Цяпер па ўсёй краіне будуецца шмат жылля, пракладваюцца новыя вуліцы – у выпадку, калі яны будуць насіць чыёсьці альбо імя і прозвішча, альбо псеўданім, то будуць называцца па адзіным стандарце, сказаў ён.

Уладзімір Шык,
*Паставы-Беласток-Элк-Гіжыцка-Паставы.*

# Жыццё ў суседзяў

## З журналісцкага блакнота

**Заканчэнне.**
*Пачатак у №48 (764).*




**У адрозненне ад беларусаў палякі не саромяцца сваіх назваў – карчма, «гаспадарство», у нас было б шынок, усадьба...**

### Самакіраванне па-польску

Акрамя правядзення няпростых рынкавых рэформ суседзі правялі таксама не менш складаную перабудову мясцовага самакіравання. За Бугам не сталі выдумляць нешта асаблівае, а ў аснову пераўтварэнняў паклалі вопыт дзейнасці англійскіх графстваў і французскіх дэпартаментаў. У краіне з насельніцтвам каля 38 мільёнаў чалавек з ранейшых 50 пакінулі толькі 16 ваяводстваў (абласцей). Кожнае з іх таксама складаецца з дзесяці і болей паветаў (раёнаў), якія рэальна незалежныя ад цэнтральнай выканаўчай улады ў Варшаве. Што цікава, ні маршалак ваяводства (у нас старшыня аблвыканкама), ні ваяводскі сейм (аблсавет дэпутатаў) не можа камандаваць войтамі 2489 польскіх гмін (сельсаветаў) і старостамі 274 паветаў (старшынямі райвыканкамаў).

У сваю чаргу ў межах сваёй кампетэнцыі дзейнічаюць і выбраныя народам бургамістры і прэзідэнты мяст (мэры вялікіх і малых гарадоў). Аднак ў глыбінцы апошнія могуць уплываць на дзейнасць мясцовай паліцыі. Мясцовым органам кіравання перададзены ў падпарадкаванне школы, бальніцы, дарогі, паркі, установы культуры і спорту, а за дзяржавай засталіся толькі пытанні агульнанацыянальнага значэння. Палітыкі ў Варшаве займаюцца толькі пытаннямі знешняй палітыкі і абароны, судовай ўлады, агульнапольскага будаўніцтва і распрацоўкай стратэгіі развіцця Польшчы. З іншага боку, толькі выбранае насельніцтвам праўленне нізавой гміны, а не хто іншы, зацвярджае, каго прызначыць дырэктарам мясцовай школы і колькі ўрачоў будуць аказваць паслугі ў здраўпункце.

Менавіта гміны вырашаюць, якія віды прадпрымальніцтва атрымаюць развіццё. Палякі на месцах вырашаюць, як будуць жыць, што ўзводзіць, рамантаваць у першую чаргу, бо ім гэтыя праблемы бліжэй. Суседзі змянілі сваю ранейшую непаваротлівую цэнтралізаваную бюракратычную сістэму і толькі ад гэтага выйгралі. Тысячы чыноўнікаў былі звольнены, скарочаны. Не стала Міністэрства гандлю, а жыццё толькі палепшала, час дэфіцыту закончыўся. Адначасова органам мясцовага самакіравання з дзяржбюджэту (прыкладна трэцяя частка расходаў, альбо 5 млрд. долараў) аказваецца дапамога на бягучую дзейнасць.

Раз у чатыры гады, а сёлета ў Польшчы ў нядзелю 16 лістапада прайшлі мясцовыя выбары. Галасаванне на выбарчых участках праводзілася адзін дзень і строга па партыйных спісах, напрамую людзі выбіралі пад кантролем грамадскасці кіраўнікоў гмін і мэраў гарадоў, якія павінны будуць супрацоўнічаць з выбранымі дэпутатамі. Дзейнасць апошніх у камісіях і на сесіях, дарэчы, аплочваецца, а польскія народныя абраннікі штомесяц зарабляюць ад 300 і болей долараў, калі займаюцца дэпутацкай працай.

У Элскім павеце, як расказаў мне былы віцэ-староста, кандыдат навук, зараз выкладчык універсітэта Рышард Скавіньскі, жыве амаль 85 тысяч чалавек, з якіх 58 тысяч – у самім горадзе. Гадавы бюджэт павета дасягае 370 млн. злотых (1,2 трлн. рблёў), а сам горад багацейшы, бо яго казна расходаў да 170 млн. долараў штогод. Тут дзейнічаюць яшчэ 4 гміны з гадавым бюджэтам да 20 млн. долараў кожная, а іх яднае, што войтаў і прэзідэнта Элка народ выбірае прамым галасаваннем. Мясцовы мэр, дарэчы, беспартыйны, яго калега, староста павета (старшыня райвыканкама) прадстаўляе правячую партыю "Грамадзянская платформа", а войт гміны Элк – сялянскую партыю.

Па словах субяседніка, мясцовае кіраўніцтва мела ўсе шанцы захаваць свае пасады, бо спрацавала нядрэнна і за чатыры апошнія гады ўдалося ажыццявіць шэраг значных праектаў. Сярод такіх і пабудова вакол горада сучаснай чатырохпалоснай аб'язной аўтастрады, узвядзенне навукова-тэхналагічнага парку, пабудова 468 новых месц паркінгу, дзіцячага парку над возерам, рэканструкцыя цэнтра культуры і адкрыццё сучаснага мульціkомплексу "Цэнтр Сінема" з трыма кінатэатрамі пад адным дахам фарматаў 2D, 3D і 5D з кафэ і падземнай паркоўкай для 200 машын.

### Аплаці тавар сам

Яшчэ летась, калі заязджаў сюды пасля заканчэння журналісцкай стажыроўкі, патрапіў на спецыяльную акцыю "Фестываль нізкіх цэн". Яе праводзіў з нагоды свайго 10-годдзя першы з мясцовых гіпермаркетаў ( іх цяпер у Элку чатыры) нямецкай гандлёвай сеткі "Kaufland", якая была створана 85 гадоў назад і ў Польшчы дзейнічае ўжо 15 гадоў. Гэты вялізны будынак на калонах пабудавалі за 11 месяцаў, пад ім паркоўка для 500 аўто, у гандлёвы зал і назад пакупнікоў дастаўляюць, як у метро, на эскалатарах. Цяпер палякі ўжо прывыклі да значна больш высокіх, чым раней, стандартаў жыцця.

Канешне, спажыўца сюды прыцягваюць адны з самых танных у Еўропе цэн на тавары практычна на ўсё, за выключэннем хіба што бытавой хіміі. Асартымент прадуктаў харчавання вельмі шырокі, можа налічваць некалькі дзясяткаў варыянтаў і ўпаковак мяса, рыбы, соусаў, масла і шмат чаго іншага. Тая ж бульба прадаецца ў рознай тары ўжо чыстая і вымытая, распродажы асобных тавар-ных груп праводзяцца штотыдзень, а наперадзе самы прывабны для пакупнікоў час масавых перадкалядных зніжак на тавары нават на 50-70%.

Аднак трэба заўважыць, што пакупнік толькі выйграе ад моцна высокай канкурэнцыі ў гандлі. Вось і ў гэтага гіпермаркета з'явіліся ў Элку некалькі грозных сапернікаў. Брытанская аналагічная сетка "Tesco" прыдумала сваю фішку: на працягу тыдня па нізкіх цэнах яна прадавала … на кілаграмы посуд фірмы DVD, фотаальбомы, ручнікі, настольнікі. У яе гандлёвыя цэнтры больш часцей прыходзяць маладзейшыя пакупнікі, бо там за набытыя тавары на выхадзе разлічваюцца яны самі ля электронных кас па метаду самаабслугоўвання, а калі нешта не атрымоўваецца, на дапамогу па тваёй просьбе можа прыйсці прадавец-кансультант.

Паступова і польскія гандлёвыя сеткі набываюць сваю моц. У гэтым горадзе паблізу аднаўленага на даваенны ўзор чыгуначнага вакзала на месцы былых ваенных казарм сетка "Marc Polo" пабудавала за год гіганцкі трохпавярховы гандлёвы цэнтр-галерэю "Брама Мазур" памерам з некалькіх футбольных палёў таксама з бясплатным падземным паркінгам. У ім размясціліся 80 супермаркетаў і буйных крам як элітных, так і больш танных брэндаў і фірм адзення, абутку, электронікі, тавараў для дома і сям'і, харчавання з некалькімі кафэ і цэнтрамі забаў для дзяцей.

> *Зараз польскі ВУП апярэджвае аналагічны беларускі паказчык ужо ў 10 разоў, а зарплата ў суседзяў за Бугам вырасла да 1300 долараў у месяц...*

Яшчэ адна польская гандлёвая сетка склепаў (крам) "Topaz express" на месцы старога закрытага шпіталя ўзвяла свой крыху меншы цэнтр, у якім размясціўся і буйны гандлёвы кітайскі дом. Кітайцы, дарэчы, у Элку пабудавалі яшчэ два свае гандлёвыя цэнтры ў розных кутках горада, хіба што толькі іх аўтасалонаў тут пакуль няма. У пагоні за спажыўцом арганізуюць штотыдзень і свае розныя акцыі распрадаж і зніжэння цэн на сотні відаў тавараў таксама буйныя гандлёвыя сеткі французская "Lidl", партугальская "Biedronka", польскія "Arhelan", "Gabka" іншыя.

У выйгрышы, зразумела, застаюцца радавыя спажыўцы, але такая бурная дзейнасць на гэтым рынку прыводзіць да таго, што не вытрымліваюць канкурэнцыі і вымушаны зваротваць сваю дзейнасць многія дробныя магазінчыкі. А там такі від дзейнасці вёўся дзесяцігоддзямі, але цяпер сямейны бізнэс вымушаны людзі спыніць, даваць аб'явы аб здачы ў арэнду сваіх памяшканняў. Праўда, сам горад Элк у цэлым ад ажыўлення гандлю і стварэння тут значнага турыстычнага цэнтра толькі выйграў, бо з'явіліся дадаткова сотні новых працоўных месц, а ўзровень беспрацоўся зменшыўся тут да сярэднееўрапейскага ўзроўню (11,8%).

***

**P.S.** Перад распадам СССР, дарэчы, узровень развіцця тагачасных ПНР і БССР быў прыкладна роўны. Зараз польскі ВУП апярэджвае аналагічны беларускі паказчык ужо ў 10 разоў, а зарплата ў суседзяў за Бугам вырасла да 1300 долараў у месяц. Прыгэтым цэны меншыя на прадукты і большасць тавараў, за выключэннем тытуню, паліва, аплаты паслуг ЖКГ. І невыпадкова сёлета беларусы купілі ў Польшчы толькі бытавой тэхнікі і будматэрыялаў амаль на 220 млн. долараў…



**У гіпермаркеце шмат тавараў і прасторы...**

**А тым часам...**

# Расія выставіла прэтэнзіі да Мёрскага камбіната, які не працуе з ёй паўтара года

**Пра гэта паведаміў намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Ігар Брыло пасля пасяджэння ў Мінсельгасхарчы з удзелам расійскага боку.**

*"Сёння на сайце Рассельгаснагляда з'явілася такое прадпрыемства, як Мёрскі мясакамбінат. Нібыта ў яго прадукцыі знойдзены геном АЧС. Я задаў пытанне Яўгену Непаклонаву* (намеснік кіраўніка Рассельгаснагляда. — Заўвага БЕЛТА)*: на падставе чаго вы робіце такое сцвярджэнне, калі прадпрыемства на працягу апошніх паўтара года наогул не экспартавала прадукцыю ў Расію?"* – сказаў Ігар Брыло. Беларускі бок прапанаваў Рассельгаснагляду разабрацца з гэтым фактам. *"Няхай прыедуць расійскія спецыялісты, мы паглядзім дакументаабарот, выпіску з ветэрынарных дакументаў і тады будзем выразна разумець, ці на самай справе слушнае сцвярджэнне, што ў прадукцыі Мёрскага мясакамбіната ёсць геном АЧС"*, — канстатаваў намеснік міністра.

На мінулым тыдні кіраўніку Рассельгаснагляда Сяргею Данкверту была накіравана прапанова аб правядзенні сумесных выпрабаванняў прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў, якая трапіла пад забарону ў Расіі. *"Мы прапанавалі стварыць некалькі рабочых груп, каб яны адабралі на нашых перапрацоўчых прадпрыемствах узоры і даследавалі ў нашых лабараторыях, а потым з удзелам нашых спецыялістаў правесці такія лабараторныя выпрабаванні ў Расіі. І тады мы зможам дакладна і выразна адказаць адзін аднаму на спрэчныя пытанні"*, — адзначыў Ігар Брыло. Паводле яго слоў, прапановы беларускага боку будуць разгледжаны 2 снежня на сустрэчы ў Мінску.

***Юлія Дылянок,** БелТА*

